


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

5 ліпеня 2002 года

№ 27 (376)
Выходзіць па пятніцах

ПАНОС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна

### Азёраў становіцца больш

**ВАЛОЖЫН.** У Івянцы аднавілі штучнае возера, што ў цэнтры гарадскога пасёлка. 12 гадоў знаходзілася яно ў запушчаным стане. Цяпер у возеры можна купацца. А праз год і рыбу лавіць, бо ў ваду запушчана 110 кілаграмаў малькоў карпа, белага амура і карася, а яшчэ 2,5 тысячы лічынак шчупака.
Для забавы па возеры можна пакатацца на двух катамаранах.

Ірына РАБУШКА.

### У Будславе будуць з песнямі

**МЯДЗЕЛ.** Да сёлетняга Будслаўскага фэсту, які прайшоў 2 ліпеня, напісана сем новых песень, прысвечаных Маці Божай Будслаўскай.
Дагэтуль былі толькі дзве: адна на беларускай і адна на польскай мовах. А кожны санктуарый павінен мець як мага больш «сваіх» песень, якія вернікі мусяць спяваць у час працэсій. Выдадзена і кніжачка з тэкстамі новых песень – усе яны на беларускай мове.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Этнаграфічная экспедыцыя

**АСТРАВЕЦ.** З 28 па 30 чэрвеня тут працавалі супрацоўнікі інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору нацыянальнай Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь і Беларускага дзяржаўнага інстытута праблем культуры.
Госці цікавіліся традыцыйнай культурай беларусаў: святамі, абрадамі, песенным і музычным фальклорам, казкамі, легендамі, былінамі, прыказкамі – усім тым, што захавалася з даўніх часоў.
Усё гэта робіцца дзеля напісання кнігі пра традыцыйную культуру Гродзеншчыны.

Ірына РАБУШКА.

### Людзей выратавалі

**МЯДЗЕЛ.** На возеры Нарач, у трох з паловай кіламетрах ад берага, перакулілася лодка з двума пасажырамі: жанчына плаваць не ўмела і трымалася за выратавальны круг, мужчына мог трымацца на вадзе. Здарэнне заўважылі ў бінокль з выратавальнай станцыі «Нарач» у Купе. На дапамогу выйшаў катэр, людзей выратавалі.

Алесь ВЫСОЦКІ.

### Увага! Ртуць!

**МАЛАДЗЕЧНА.** У панядзелак а 11-й гадзіне раніцы ў адной з тэхнічных лабараторый політэхнічнага тэхнікума знайшлі 20 грамаў ртуці.
Яе выявілі падчас рамонту. Брыгада міністэрства па надзвычайных сітуацыях ліквідавала небяспечны ачаг за дзве гадзіны. Работы былі ўскладнены раскіданымі будаўнічымі матэрыяламі.

Ірына РАБУШКА.

### Прывялі мяжу ў парадак

**ВІЛЕЙКА.** 1 ліпеня на кіламетр ў бок Маладзечна перанеслі раздзяляльны дарожны знак паміж Маладзечанскім і Вілейскім раёнамі на аўтадарозе Вілейка-Маладзечна.
Як сказаў начальнік ДЭУ-63 **Аляксандр Сталыга**, гэта зроблена, каб прывезці мяжу паміж раёнамі ў адпаведнасці з адміністрацыйным дзяленнем. Фактычна мяжа паміж Маладзечанскім і Вілейскім раёнамі праходзіць па чыгунцы.

Ірына РАБУШКА.



### Надвор'е на выхадныя

Субота, 6 ліпеня

**Мінск**
11°С (уначы)
21°С (удзень)



**Вільня**
11°С (уначы)
21°С (удзень)



Нядзеля, 7 ліпеня

**Мінск**
12°С (уначы)
22°С (удзень)



**Вільня**
11°С (уначы)
21°С (удзень)



# А хто там ідзе?.. Беларусы!

**МАЛАДЗЕЧНА. – Нарэшце наша Яхімоўшчына выб'ецца з ценю Вязынкі, Акопаў і Ляўкоў, – не без задавальнення зазначае старшыня праўлення калгаса "Яхімоўшчына" Генадзь Бажко. – Менавіта тут Янка Купала фарміраваўся як паэт-грамадзянін, тут працаваў над першым зборнікам "Жалейка", тут напісаў знакаміты свой верш "А хто там ідзе?". Да таго ж у Яхімоўшчыне лунае жывы дух паэта – без вялікіх змяненняў захавалася хата, дзе кватараваў чарнарабочы мясцовага бровара Іван Луцэвіч.**

Радасць Генадзя Бажко можна зразумець: ён, бадай, як ніводзін сённяшні кіраўнік-вытворца рупіцца пра беларушчыну, пра захаванне культурнай і гістарычнай спадчыны. У тым, што ў Яхімоўшчыне ўсё ж з'явіўся філіял літаратурнага музея Янкі Купалы, ці не яго галоўная заслуга. Нават жонцы паэта, Уладзіславе Францаўне, якая ў 1959 годзе наведвалася сюды, не ўдалося ажыццявіць задуму. І толькі пазалетась музей сустрэў сваіх наведвальнікаў.

– У нас сабрана нямала цікавых звестак пра жыццё і творчасць Купалы, – расказвае загадчыца філіяла "Яхімоўшчына" Святлана Ціс. – Тут ён загучаў як паэт-трыбун, выразнік дум беларускага народа, бо да Яхімоўшчыны, да 1904 года, Янка Купала пісаў на польскай мове. Многія вершы, якія ён склаў у Яхімоўшчыне, увайшлі ў зборнік "Жалейка", да прыкладу, перакладзены больш чым на восемдзесят моў свету "А хто там ідзе?".

З Яхімоўшчынай звязаны яшчэ адзін даволі цікавы факт: адсюль пагалоска пра Купалу-паэта пайшла па свеце. Настаўнік пачатковай школы з суседняга Гарадзілава Андрэй Посах, добры сябра і цікавы субяседнік Івана Дамінікавіча, у 1910 годзе пабываў у замежнай экскурсіі ў Італіі, завітаў і на востраў Капры, да Максіма Горкага. Пры знаёмстве з апошнім расказаў пра маладога паэта, які піша па-беларуску, простай і зразумелай мовай. Горкага захапіў аповед гарадзілаўскага настаўніка, ён папрасіў нават выслаць пабольш вершаў. Андрэй Посах выканаў абяцанне і даслаў "буравесніку рэвалюцыі" купалаўскую "Жалейку" і зборнік вершаў Якуба Коласа "Песні жальбы". Як пазней успамінаў Андрэй Посах, найвялікшым падарункам было для яго пісьмо-падзяка з Капры, а таксама вестка, што Максім Горкі пераклаў на рускую мову верш "А хто там ідзе?".

У кожнага чалавека ёсць свае сцежкі на зямлі. Жыццёвыя сцежкі Янкі Купалы пралеглі праз жывапісныя куткі Міншчыны. І вельмі ўсцешна, што адна з іх прывяла будучага Песняра ў Яхімоўшчыну, дзе і сёння, у дні 120-гадовага юбілею, шануюць памяць пра яго, ганарацца яго постаццю.

Купальскай ноччу многія жыхары Яхімоўшчыны, зрэшты, як і іншыя беларусы, пойдуць шукаць кветку шчасця. Можа, каму-небудзь і пашанцуе, пакуль сама Беларусь не знайшла свайго шчасця.

**Іван МЁДАЎ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Тое, што ў Яхімоўшчыне з'явіўся літаратурны музей Янкі Купалы, – заслуга старшыні праўлення калгаса "Яхімоўшчына" Генадзя Бажко. Гэта адзін з нямногіх кіраўнікоў-вытворцаў, які рупіцца пра захаванне культурнай і гістарычнай спадчыны.**

# Дзве задачы ад прэм'ер-міністра

**МАЛАДЗЕЧНА. 1 верасня павінныя пачацца заняткі ў школе, якая будуецца ў шостым мікрараёне, а ў кастрычніку – адкрыецца Дом культуры. Такія задачы паставіў прэм'ер-міністр Беларусі Генадзь Навіцкі, які наведаў горад 28 чэрвеня.**

У складзе сталічнай дэлегацыі былі старшыня Мінскага аблвыканкома **Мікалай Дамашкевіч**, дэпутат Палаты прадстаўнікоў ад Маладзечна **Станіслаў Гаварушкін** і работнікі міністэрстваў і аблвыканкома. У Маладзечне прэм'ер-міністр наведаў згаданую школу ў шостым мікраараёне, стаматалагічную паліклініку і Дом культуры.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Ёсць ад чаго задумацца прэм'ер-міністру Генадзю Навіцкаму. Да восені павінны быць пабудаваныя Дом культуры і школа. Як управіцца?**

Спачатку Г. Навіцкага прывезлі на будоўлю школы ў шостым мікраараёне. Намеснік старшыні Маладзечанскага гарвыканкома па будаўніцтву **Мікалай Воранаў** сказаў, што для таго, каб завяршыць школу ў тэрмін, патрэбна каля двух мільярдаў рублёў. Генадзь Навіцкі паабяцаў неадкладна пералічыць патрэбныя грошы з рэспубліканскага бюджэту. У адваротным выпадку, як пажартаваў прэм'ер-міністр, намесніка міністра фінансаў пакінуць працаваць у гэтай школе. Таксама Г. Навіцкі параіў падвоіць колькасць будаўнікоў, занятых на гэтым аб'екце, каб своечасова выканаць усе работы. Цяпер на будаўніцтве школы працуюць 350 чалавек, а пажадана – шэсцьсот.

- Лепш цяпер працуйце ў тры змены, чым апошні месяц – упяць, – сказаў на развітанне прэм'ер-міністр.

Прама ў вялікай зале Дома культуры Мікалай Дамашкевіч аб'явіў вымову з апошнім папярэджаннем Мікалаю Воранаву за тое, што марудна ідуць работы. Старшыня Мінскага аблвыканкома дадаў:

- За тыдзень не падцягнецеся, – здыму з работы.

Узвядзенне Дома культуры неаднаразова спынялася з-за перабояў у фінансаванні. Як і на першым аб'екце, Генадзь Навіцкі сказаў, што неабходныя грошы пералічаць. Справа – за будаўнікамі.

– Дом культуры трэба здаць у эксплуатацыю ў канцы верасня – пачатку кастрычніка. Мяркуецца, што адкрые Дом культуры Аляксандр Лукашэнка, – паведаміў Г. Навіцкі.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

# Валожынцы адгулялі свята горада

**ВАЛОЖЫН. 29 чэрвеня тут прайшло свята горада.**

Падрыхтоўка да яго працягвалася да апошняга дня. У суботу з 5 гадзін раніцы спецыяльныя машыны сушылі асфальт на плошчы Свабоды пасля начнога дажджу. Свята горада адкрылася конкурсам дзіцячага малюнка на асфальце "Зберажом зямлю блакітнай". Удзельнікі каляровай крэйдай расквецілі плошчу сонейкам, кветкамі, галубамі.

У 11 гадзін свята ўрачыста адкрылі. У Валожын прыехалі дэлегацыі з расійскага горада Зарайска і балгарскага Попава. Былі госці з Маладзечанскага раёна, Ашмян і Савецкага раёна сталіцы.

У рамках свята прайшоў першы раённы фестываль сямейнай творчасці "Прыгажосць ствараем самі". Удзельнічалі 9 сем'яў з розных куткоў раёна. Было шмат дзяцей. Кожная сям'я павінная была паказаць свае таленты. Сем сямей спявалі і гралі на музычных інструментах, дзве спецыялізаваліся на саломапляценні, апліквацыі саломкай і лазапляценні. Званне лаўрэатаў прысудзілі сям'і Бібікаў. Яны праспявалі песні на рускай, беларускай і польскай мовах. А ў сям'і Русецкіх з Ракава спявалі ўсе 9 дзяцей.

Самы старэйшы ўдзельнік фестывалю 79-гадовы **Браніслаў Шыдлоўскі** з вёскі Гляі іграў на скрыпцы. Самы маленькі **Павел Скапец** закончыў першы клас. У дуэце са сваім бацькам ігралі на гармоніку і бубне.

На свяце горада адзначылі найстарэйшую жыхарку райцэнтра 102-гадовую **Хрысціну Мандрык**. Ушанавалі бацькоў наймалодшай жыхаркі **Нікі Вайцяхоўскай** – Максіма і Таццяну.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**На свяце горада ў Валожыне сярод папулярных тавараў былі надзіманыя цацкі, якія прывезла з мінскага парку Горкага Ніна Шаўчэнка.**

Не абышлося без дажджу, які пачаўся перад выступленнем "Беларускіх Песняроў". Менавіта іх валожынцы чакалі больш за іншых.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

■ 7 ЛІПЕНЯ – 120 ГОД ЯНКУ КУПАЛУ

## Праграма свята паэзіі

**МАЛАДЗЕЧНА. 6 ліпеня ў Вязынцы пройдзе свята паэзіі, якое прысвечанае 120-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.**

**У праграме свята:**

- Кветкі Янку Купалу;
- Сустрэча-дыялог з маладымі беларускімі пісьменнікамі;
- Вялікі святочны канцэрт "Паэзіі і музыкі спатканне" з удзелам вядомых беларускіх пісьменнікаў, прафесійных і творчых калектываў Мінска і Мінскай вобласці.

**Будуць працаваць пляцоўкі:**

"Паэтычны куток" – з 10-00 да 16-30;
Ля помніка Янку Купалу – з 11-15 да 16-30;
На мосце – з 10-00 да 15-00;
На чыгуначнай станцы – з 10-00 да 15-00;
Ля крынічкі – з 10-30 да 15-00.

**На свяце будуць арганізаваныя:**

Продаж юбілейных манет
Памятнае гашэнне спецыяльным штэмпелем марак і канвертаў, прысвечаных юбілею паэта
Выстаўкі і продаж кніг, твораў народных майстроў.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Янка Купала: біяграфічныя звесткі

Янка Купала (сапраўднае імя - Іван Дамінікавіч Луцэвіч). Нарадзіўся 25 чэрвеня (7 ліпеня) 1882 года ў фальварку Вязынка Мінскага павета, цяпер вёска Вязынка Маладзечанскага раёна.

У 1898 скончыў Беларуцкае народнае вучылішча. Пасля смерці бацькі (1902) працаваў хатнім настаўнікам, пісарам судовага следчага ў Радашкавічах, на бровары ў Яхімоўшчыне, бібліятэкарам. У 1909-13 гг вучыўся на агульнаадукацыйных курсах А.Чарняева ў Пецярбургу, у 1915 – у народным універсітэце імя А.Шаняўскага ў Маскве. У 1914-1915 працаваў рэдактарам газеты "Наша ніва". Удзельнічаў у стварэнні нацыянальнага тэатра, БДУ, Акадэміі навук БССР. У гады Вялікай Айчыннай вайны жыў у Маскве. 28 чэрвеня 1942 года памер пры нявысветленых абставінах. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках.

Зборнікі паэзіі: "Жалейка" (1908), "Гусляр" (1910), "Шляхам жыцця" (1913), "Спадчына" (1922), "Безназоўнае" (1925). У 1972 г. выйшла кніга "Публіцыстыка", у 1989 – "Паэмы. Драматычныя творы" (уключаны трагікамедыя "Тутэйшыя", паэмы "Калека", "На Куццю" і іншыя творы, якія доўгі час былі забаронены).

П'еса "Паўлінка" пастаўлена на сцэне ў 1913 (па спектаклю ў 1952 створаны аднайменны кінафільм, у 1973 – аперэта), драматычная паэма "Адвечная песня" - ў 1921, "Сон на кургане" – у 1928, "Раскіданае гняздо" – у 1917 (1982 – кінафільм).

Пераклаў на беларускую мову "Слова аб палку Ігаравым" (прозай і вершам), шэраг вершаў і паэм Т.Шаўчэнкі, асобныя творы М.Някрасава, І.Крылова, Ю.Крашэўскага, У.Сыракомлі і інш.

**Падрыхтавала Святлана ЦІШКО.**

■ ТЭАТР

# Акцёр павінен жыць на сцэне

**Для актрысы Мінскага абласнога драматычнага тэатра Алены Рахмангулавай сёлетні сезон адзначаны прыемнай падзеяй – ёй прысвоена званне "Майстар сцэны".**

Алена Рахмангулава артыстка рознага жанру, характарная. Яна пераканаўчая і цікавая ў любой ролі. Узроставая роля Ганны ў спектаклі "Вечар" А.Дударава і юная Ганначка ў "Буслік супраць Кадука" Г.Марчука. Старая дзева Агюсціна ў спектаклі "Восем закаханых жанчын" Р.Тама, пластычная Сабака ў спектаклі "Проста Мяфа" А.Палешчанкавай.

"Алена заўсёды ў пошуку, яна добра адчувае прыроду гумару і валодае ім. З ёй цікава працаваць. Яна заўсёды запатрабавана", – характарызуюць Алену Рахмангулаву калегі.

У 1998 годзе на рэспубліканскім фестывалі дзіцячых спектакляў узнагароджана за лепшую жаночую ролю (Латачка – "Чарадзейства ў краіне Оз" Галіны Булыкі), у 1999 годзе атрымала прэмію "Талент" у намінацыі "Артыст года". А 2002 год прынёс ёй званне "Майстар сцэны".

Але, як гэта ні дзіўна, жадання стаць артысткай у дзяцінстве не было. Іграла ў драматычным гуртку, удзельнічала ў мастацкай самадзейнасці, але марыла стаць фізікам-матэматыкам.

Прыхільнікі, паклоннікі творчасці артысткі Рахмангулавай павінны шчыра дзякаваць маці Алены за тое, што тая прывяла дзяўчыну ў МІК. "Увесь першы курс я баялася – ці тое раблю, ці змагу? – успамінае Алена. – А зараз я ўпэўнена – гэта маё. Самае галоўнае для мяне на сцэне – бачыць вочы партнёра, рэжысёра і адчуваць аддачу гледача. Яны дапамогуць жыць на сцэне жыццём свайго героя, адкінуць і забыцца пра свае праблемы".



Фота з архіва Мінскага абласнога драматычнага тэатра.

**Актрыса Мінскага абласнога драматычнага тэатра Алена Рахмангулава.**

Словамі шчырай удзячнасці ўспамінае артыстка сваіх педагогаў, якія, як і маці, убачылі ў ёй талент артысткі. Гэта Вячаслаў Алегавіч Цюпа (які, дарэчы, адкрыў Алену як камедыйную актрысу), Галіна Леанідаўна Галкоўская, Уладзімір Аляксандравіч Раманоўскі.

З цеплынёй успамінае Алена Рахмангулава час працы з Венядзіктам Растрыжэнкавым. Гэта з яго лёгкай рукі артыстка стала ўдзельнічаць у дзіцячых спектаклях.

Добрыя словы прагучалі падчас нашай размовы і ў адрас Генрыха Баравіка, Юрыя Вуты, Валерыя Мазынскага.

Вынік работы з апошнім – меладрама "Вечар" А.Дударава. "Складана было ўвайсці ў вобраз Ганны", — гаворыць Алена. Але гэта ёй сапраўды ўдалося, хоць па ўзросту яна далёка ад сваёй гераіні. Па словах Алены, дапамог ёй гэта зрабіць рэжысёр, які даў магчымасць працаваць, перажываць усё на сцэне.

"Для мяне няма не любімых спектакляў, яны ўсе цікавыя і любімыя. Можна назваць "Пры зачыненых дзвярах" Ж.П.Сартра і "Парася, якое спявае" С.Казлова, і шмат-шмат іншых. Як для любога артыста, для мяне цікавы сам факт работы, само жыццё, а не існаванне на сцэне. І галоўнае, каб было больш добрых рэжысёраў, з якімі было б цікава працаваць, была магчыма творчасць на сцэне".

**Валянціна ШЫКАВЕЦ.**

■ КОНКУРСЫ

# У прыгажуні з Вілейкі ўсё наперадзе

**МІНСК. Віляйчанка Наталля Дзяруга прадстаўляла Мінскую вобласць на рэспубліканскім конкурсе прыгажосці "Міс-Беларусь – 2002". Ён прайшоў у мінулыя выхадныя ў Палацы рэспублікі.**

Наталлі 19 гадоў. Рост 176 сантыметраў, памеры 89х60х90. Смуглявая брунетка. Кажуць, на славянку непадобная. Завочна вучыцца ў інстытуце. Працуе ў мадэльным агенцтве "Тамара". Мела запрашэнне ад мадэльнага агенцтва Сашы Варламава.

Шлях на рэспубліканскі конкурс быў для Наталлі даволі складаным. Спачатку яна заваявала тытул віцэ-міс Вілейкі. Такое ж званне атрымала на абласным конкурсе ў Барысаве.

У рэшце рэшт трапіла на рэспубліканскі конкурс прыгажосці. З красавіка Наталля займалася пры Мінскім абласным харэаграфічным вучылішчы. Выступала на конкурсе пад №11.

Вілейская прыгажуня не атрымала ніводнага тытула. Але яна задаволена надзвычай заманлівымі прапановамі аб працаўладкаванні.

**Ірына РАБУШКА.**

# Ён адплаціў народу...

У вершы "За ўсё", напісаным у 1926 годзе, Янка Купала нібы спавядаўся:

*Я адплаціў народу,*
*Чым моц мая магла:*
*Зваў з путаў на свабоду,*
*Зваў з цемры да святла.*

І вось амаль праз восемдзесят гадоў настала пара і нам, нашчадкам ягоным, трымаць слова: ці ўсё зрабілі, каб Бацькаўшчына была вольнай і заможнай, каб не цураўся люд матчынай мовы, каб заняла Беларусь "свой пачэсны пасад між народамі"?..

А калі, як не ў дзень юбілею песняра, дабраўшыся да Вязынкі, да радзімы Купалы, схіліць галаву ў задуменні, а можа, і пакаяцца – у абыякавасці, у бязволлі, у "тутэйшасці". І толькі тады ўжо далучыцца да свята.

Маладзечанцы, як вынікае са слоў намесніка старшыні раённага выканаўчага камітэта **Наталлі Гайковіч**, рыхтаваліся да яго даўно і сур'ёзна. Многае зроблена па добраўпарадкаванню мемарыяльнага запаведніка "Вязынка". Тут пашчыравалі раённыя арганізацыі: лясгас, дарожнікі, жыллёва-камунальная служба. З'явіўся новы арачны масток праз ручай, пахарашэлі сядзібы вёскі. І, нарэшце, пра што марылася ўжо даўно, аднавілася матэрыяльная частка літаратурнай экспазіцыі музея. Напярэдадні пабачыў свет чарговы, шосты нумар гісторыка-краязнаўчага і літаратурна-мастацкага часопіса "Куфэрак Віленшчыны", прысвечаны народнаму паэту Беларусі Янку Купалу. Адкрытае акцыянернае таварыства "Белмастацкераміка" падрыхтавала да продажу сувеніры з юбілейнай сімволікай.

Акрамя таго, зазначыла Наталля Сяргееўна, у раёне праводзяцца штогадовыя злёты, конкурсы маладых паэтаў, якія пераконваюць – моладзь ідзе ў літаратуру, горнецца да матчынай мовы і неўміручай спадчыны Купалы.

Рэспубліканскае свята паэзіі, якое пройдзе 6 ліпеня ў Вязынцы, акурат і павінна засведчыць згаданыя ўжо любоў і павагу да песняра. На радзіму Купалы прыедуць знакамітыя асобы не толькі беларускай культуры, але і госці з Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы, Грузіі, кіраўнікі краіны. У 12 гадзін пачнецца гала-канцэрт, а яшчэ раней адкрыюцца паэтычныя пляцоўкі, гаспадарамі якіх стануць майстры паэтычнага слова і маладыя паэты. Будуць працаваць шматлікія гандлёвыя кропкі, чакаецца вялікі кніжны кірмаш. І, безумоўна, удосталь будзе музыкі, песень, цікавых сустрэч.

Кожны, хто знойдзе магчымасць у гэты дзень пабываць у Вязынцы, зможа далучыцца і сэрцам і душой да думак і пачуццяў вялікага песняра, адчуць сябе адказным за лёс Бацькаўшчыны. Падобныя сустрэчы з Паэтам і Грамадзянінам адбываюцца не часта.

**Аляксандр ВІТАЛЬЕЎ.**

# Калі каморнік у шапку спіць

**Аддзел па зямельных рэсурсах і землеўпарадкаванню Маладзечанскага райвыканкома не кантралюе як след выкарыстанне зямлі, выдзеленай пад прамысловую распрацоўку, а таксама рэкультывацыю парушаных зямель.**

Спецыялістамі Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці сумесна з Маладзечанскай гаррайінспекцыяй прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя праведзена праверка ходу рэкультывацыі зямель, якія звязаны з вынікамі прамысловых распрацовак мінеральнай сыравіны ў Маладзечанскім раёне.

Па стану на 01.06.2002 года ў раёне ёсць 132,5 гектара парушаных зямель (выдзеленых для распрацоўкі пяску і пясчана-гравійных сумесяў), з іх апрацавана і належыць рэкультывацыі — 11,2 гектара, акрамя гэтага, з агульнай колькасці парушаных зямель 18,5 гектара — з прайшоўшым тэрмінам карыстання.

Тэрмін часовага карыстання зямельным участкам плошчай 3,5 гектара, выдзеленага вытворча-будаўнічаму кааператыву "Сельскі будаўнік" (старшыня Віктар Шавалда) пад распрацоўку пяску, не прадоўжаны з 1991 года па цяперашні час, не праводзіліся кааператывам і работы па рэкультывацыі нявыкарыстаных зямель. Аднак у парушэнне дзеючага заканадаўства аб зямлі па даных землеўпарадкавальнага аддзела райвыканкома ВБК "Сельскі будаўнік" Маладзечанскім райвыканкомам на 1998 год быў выдзелены ліміт здабычы пясчана-гравійнай сумесі ў аб'ёме 2 тысячы кубічных метраў. Здабыча пясчана-гравійнай сумесі ў гэты перыяд ажыццяўлялася кааператывам з парушэннем дзеючага заканадаўства аб зямлі.



Сем разоў адмерай... Зямлю наразаць умеем. Гаспадарыць на ёй — не кожны... Фота IREX/ProMedia.

Пры праверцы кар'ера сумесна з гаррайінспекцыяй прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя выяўлена незаконная здабыча пясчана-гравійнай сумесі дарожным рамонтна-будаўнічым упраўленнем №49 ААТ "Аўтамагістраль" г.Маладзечна (дырэктар Георгій Мятліцкі). Здабыча гравійна-пясчанай сумесі вялася пры адсутнасці дагавора з ВБК "Сельскі будаўнік".

Не прадоўжаны тэрмін карыстання пясчаным кар'ерам з 1995 года і не праведзена рэкультывацыя зямельнага ўчастка парушаных зямель плошчай 1,4 га, які лічыцца за дарожна-будаўнічым унітарным прадпрыемствам "СПМК-86" (начальнік Пётр Сенькавец). На момант праверкі тэрыторыя кар'ера выкарыстоўваецца насельніцтвам для звалкі бытавога смецця.

Пры праверцы ААТ "Завод жалезабетонных канструкцый" г.Маладзечна (дырэктар Уладзімір Бялько) устаноўлена, што прадпрыемствам дабывалася пясчана-гравійная сумесь для патрэб уласнай вытворчасці з кар'ера "Цвеценскі" ў перыяд з 1999 па жнівень 2000 года без наяўнасці ліцэнзіі, выдаваемай Праматамнаглядам.

З боку аддзела па зямельных рэсурсах і землеўпарадкаванню Маладзечанскага райвыканкома адсутнічае належны кантроль за тэрмінамі часовага карыстання зямельнымі ўчасткамі, выдзеленымі пад прамысловую распрацоўку, а таксама за ходам рэкультывацыі парушаных зямель, што прыводзіць да парушэнняў норм і патрабаванняў Кодэкса Рэспублікі Беларусь "Аб зямлі".

Па выніках праверкі чатыры службовыя асобы прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

**Ганна ВАЛОШАНКА.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 27 чэрвеня | 4 ліпеня |
|---|---|---|
| Долар | 1797,00 руб. | **1802,00** руб. |
| ЕЎРА | 1776,15 руб. | **1770,46** руб. |
| Злоты | 448,97 руб. | **449,80** руб. |
| Літ | 514,50 руб. | **512,83** руб. |
| Расійскі рубель | 57,11 руб. | **57,18** руб. |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 1800 – 1820 руб. | **1810 – 1830** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 26.06 | 2.07 |
|---|---|---|
| **Кілбаса с/вялен.**, 1 кг | 9900-11700 | **10800-12700** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 2900-4900 | **3480-4400** |
| **Селядзец**, 1 кг | 2300 | **2300** |
| **Рыс**, 1 кг | 650-1000 | **650-950** |
| **Грэчка**, 1 кг | 530-580 | **510-600** |
| **Цукар**, 1 кг | 775 | **775** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 680 | **880** |
| **Алей**, 1 л | 1500-2020 | **1550-2000** |
| **Маянэз**, 200 г | 400-550 | **380-550** |
| **Кава "Пеле"**, 100 г | 1900 | **1900** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 600 | **600** |
| **Соус там. «Мінскі»**, 0,5 л | 600 | **500-580** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 1100 | **1000-1200** |
| **Капуста**, 1 кг | 450-600 | **450** |
| **Лімоны**, 1 кг | 2000-2150 | **1900-2000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 1250-1500 | **1200-1600** |
| **Агуркі**, 1 кг | 400-500 | **620-700** |
| **Памідоры**, 1 кг | 1770-2100 | **1550-1900** |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| **Смятана**, 1 л | 1600-1800 | **1500-1800** |
| **Масла**, 1 кг | 3700 | **3600-3800** |
| **Тварог**, 1 кг | 1400-1800 | **1500** |
| **Малако**, 1,5 л | 500 | **500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 1400 | **1400** |
| **Бульба**, 1 вядро | 3400-4000 | **3700** |
| **Бульба маладая**, 1 вядро | 8000 | **9000** |
| **Клубніцы**, 5-літровае вядро | 4500-7500 | **8000** |
| **Чарніцы**, 5-літровае вядро | 4000-4500 | **4000** |
| **Суніцы**, 5-літровае вядро | 14000 | **10000** |
| **Чорная парэчка**, 5-літр. вядро | 4000-5500 | **2500-3000** |
| **Вішня**, 5-літр. вядро | 5000 | **4000** |
| **Маліна**, 5-літр. вядро | 5000-7000 | **5000-7000** |

# Другі аператар сотавай сувязі

**27 чэрвеня адбылося ўрачыстае адкрыццё офіса беларуска-расійскага ААТ МТС "Мабільныя ТэлеСістэмы" ў будынку гадзіннікавага завода ў сталіцы.**

На адкрыцці прысутнічалі віцэ-прэм'ер У. Дражын і міністр сувязі У.Ганчарэнка. На Беларусі з'явіўся другі аператар сотавай сувязі стандарту GSM/MTC – буйнейшая расійская кампанія, якая валодае 46% рынку сотавай сувязі ў Расіі – выйграла тэндэр яшчэ ў верасні мінулага года. Але, па словах прэзідэнта кампаніі М.Смірнова, з-за збояў у беларускім заканадаўстве і бюракратычнай цяганіны, ліцэнзія была атрымана толькі ў канцы красавіка гэтага года.

На момант адкрыцця офіса МТС забяспечвае сотавую сувязь на значнай плошчы Мінска і ў раёне аэрапорта "Мінск-2". Да канца верасня плануецца ахапіць Мінск і Мінскую вобласць, а да канца года – тэрыторыю ўздоўж дарогі Мінск-Масква. Праз пяць гадоў МТС плануе ахапіць сувяззю 90% насельніцтва Беларусі. (На сённяшні дзень абанентамі "Белсела" і Velkoma з'яўляюцца каля 2% беларусаў). Для гэтых мэт плануецца інвесціраваць 215 мільёнаў долараў, 40 мільёнаў з якіх ужо ўкладзена. Але планы могуць застацца планамі, бо кошт мабільнай трубкі складае ад 199000 да 643000 рублёў, што пры цяперашніх заробках і пенсіях значная сума.

Многія чакалі значна меншых у параўнанні з Velkomam тарыфаў. Але надзеі не спраўдзіліся. Параўнайце самі:



Фота IREX/ProMedia.

На беларускім рынку ёсць канкурэнцыя не толькі паміж фірмамі-вытворцамі мабільных тэлефонаў, але і аператарамі сотавай сувязі.

| | МТС | Velkom |
|---|---|---|
| Памесячная абанентная плата | 9000 | 15180 |
| 1 хвіліна размовы | | |
| па базавым тарыфе ў сваёй сетцы | 90 | 235 |
| на звычайны гарадскі тэлефон | 216 | 290 |
| з Заходняй Еўропай | 1785 | 1800 |
| з краінамі СНД | 1050 | 1250 |

**Мікола ЛІННІК.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# «Пагарэлі» браты на саломцы

**СМАРГОНЬ. Лета для аматараў "пасядзець на іголцы" кожны год характэрна павышэннем актыўнасці. Асабліва ў жніўні, калі на агародах выспявае мак. Смаргонскія наркаманы аддаюць перавагу менавіта яму з-за нізкага кошту.**

Зразумела, не бяздзейнічаюць і супрацоўнікі групы нараваў і незаконнага абароту наркотыкаў Смаргонскага РАУС. Віктар Харкевіч узначальвае групу і зўважае, што і сёлета яны будуць праводзіць рэйды, накіраваныя на выяўленне прытонаў наркаманаў, каналаў перапраўкі і збыту наркатычных сродкаў. Нядаўна падчас такога рэйду і былі затрыманы браты Н. У іх кватэры на вуліцы Юбілейнай аператыўнікі знайшлі амаль адзін кілаграм апрацаванай макавай саломкі.

Праз некаторы час ужо на другой кватэры, на вуліцы Савецкай, якую здымалі тыя ж браты Н., было знойдзена яшчэ пяцьсот грамаў макавай саломкі.

Братоў чакае суд.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ СУВЯЗЬ

# Палову плана выканалі

**СМАРГОНЬ. Мясцовы вузел электрасувязі ў гэтым годзе плануе павялічыць колькасць абанентаў да 500.**

Як зазначыў для "РГ" начальнік РВЭС Іван Добрук, службай сувязі ўжо ўстаноўлена 20 тэлефонаў у сельскай мясцовасці і 250 – у горадзе.

Згодна з планам развіцця вузел электрасувязі ў Вішневе ўстановіць новую лічбавую станцыю на 200 нумароў. Абаненты ў Жодзішках атрымаюць новую валаконна-аптычную лінію ад самой Смаргоні.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ РЫНАК

# Малако з халадзільніка

**МАЛАДЗЕЧНА. Распрацаваны праект новага кілбаснага павільёна, які размесціцца на калгасным рынку.**

Будаўніцтва будзе весціся за кошт сродкаў індывідуальных прадпрымальнікаў. Кожны павінен абсталяваць для сябе гандлёвае месца.

У старым кілбасным павільёне будуць прадавацца малочныя вясковыя прадукты. Урэшце яны будуць захоўвацца ў халадзільніку.

**Ірына РАБУШКА.**

■ ТРАДЫЦЫІ

# Ноч на Івана Купалу – ад паганства да сёння

**Купалле – язычніцкае свята ў гонар летняга сонцастаяння, найвышэйшага росквіту прыроды і ўшанавання вады. Адзначаецца яно ў ноч з 23 на 24 чэрвеня ў каталікоў і з 6 на 7 ліпеня ў праваслаўных беларусаў.**

Пасля прыняцця хрысціянства беларусы не адмовіліся, нягледзячы ні на якія перашкоды, ад купальскіх абрадаў. І царква мусіла прымеркаваць да гэтага дня сваё свята – у хрысціянстве адпаведна на 24 чэрвеня і 7 ліпеня прыпадае дзень нараджэння Прарока Івана Прадцечы, якому суджана было ахрысціць у рацэ Іардан Ісуса Хрыста. Свята стала насіць назву Іван Купала, або Ян, Іванаў дзень.

Ад Каляд да Купалля сонца было ўвесь час у стадыі ўзыходжання: павялічваўся дзень, саграваласа зямля, адраджалася прырода. У дзень летняга сонцастаяння гэтыя з'явы дасягалі свайго апагея. Да гэтага часу выраслі і адцвілі на сялянскіх палях жыта, пшаніца, лён, бульба, іншыя культуры, закончыўся прыплод у жывёлы. Здабыткі новага года станавіліся відавочнымі, за што ў абрадах чалавек выказваў падзяку Агню, Вадзе і Зямлі, якія ім абагаўляліся. Нашымі продкамі прыносіліся ім ахвяры ў выглядзе расліннасці, прадуктаў харчавання.

Акрамя гэтага, Купалле дазваляла выказаць язычнікам вяселле і радасць ад аднадушнага спалучэння са станам прыроды, яе найвышэйшым росквітам і зямной прыгажосцю. Улічваючы гэта, Купалле можна назваць і экалагічным святам, якое вучыла чалавека жыць у гармоніі з навакольным асяроддзем і чутка ўлоўліваць усе адценні яго настрою.

Хлопцы рыхтавалі месца да купальскага вогнішча, якое звычайна рабілі на скрыжаванні дарог, на мастах, беразе рэчкі або возера ці на пагорках. Закопвалі ў зямлю "дзябёлы" шэст або слуп, на вяршыні якога замацоўвалі ў гарызантальнай плоскасці з'еджанае кола ад калёс, якое за часы ўжывання добра прамаслілася. Ад кола па слупе ўніз абмотвалі таксама прамасленую вяроўку ці скручаны з саломы або льняной куздзелі кужаль. Знізу пад слуп зношвалі ад кожнага двара і складалі ў кучу "май" – засохлыя галінкі дрэў, якія вешалі ў хаце і вакол яе на Сёмуху.

**Купальскае свята практычна пачыналася з другой паловы дня 6 ліпеня дашлюбнай моладдзю. Дзяўчаты збіраліся гурткамі і ішлі да жытняга поля збіраць кветкі і звіваць вяночкі. Даволі часта кветкі збіралі з розных палёў, што адносіліся да суседніх вёсак. Лічылася, што гэта дазваляе заманіць да сябе жаніхоў з гэтых вёсак.**

З надыходам вечара, калі сонейка пачынала садзіцца за гарызонт, дзяўчаты, упрыгожаныя вянкамі, ішлі, спяваючы песні, з поля да месца купальскага вогнішча. Песні гэтыя неслі зварот да Месяца і Бога развесці купальскі агонь. У старажытныя часы агонь лічыўся божым дарам чалавеку, і здабывалі яго з дапамогай трэння ці элементарных прыстасаванняў. Такі агонь лічыўся свяшчэнным, а яго здабыванне суправаджалася рознымі магічнымі рытуаламі, што праводзіў язычніцкі святар. Такая традыцыя здабывання агню для купальскай абраднасці захоўвалася аж да XIX стагоддзя.

Як толькі сонца поўнасцю хавалася за гарызонт, запальвалі "май". Ад сухіх галінак агонь па кужалю перабіраўся на кола, якое і формай, і праменямі у прасторы сімвалізавала і як бы працягвала функцыі сонца на зямлі ў гэтую ноч.

Зразумела, што вядомыя і іншыя варыянты арганізацыі вогнішчаў (напрыклад, сучасны варыянт са старых шын, якія падпальваюць з дапамогай нафтапрадуктаў), аднак усе яны ў большасці ўзнікалі ўжо ў хрысціянскія часы.

Вакол агню дзяўчаты вадзілі карагоды, спявалі купальскія песні. Хлопцы абавязкова наладжвалі гульні з пераскокваннем праз агонь.

На заканчэнне гульняў каля агню моладзь пускала на ваду вяночкі, на якія, як і ў траечнай варажбе, задумвалі пра будучыню свайго роду і лёсу. Унутры купальскага вянка рабілася перапляценне са сцяблінак лёну альбо жыта, і ставілі туды свечачку, запаленую ад купальскага вогнішча.

З нецярплівасцю чакалі ў гэтую ноч раніцы, калі пачынала ўзыходзіць сонца, каб пагледзець, як яно "грае". Сонца, падобна велікоднаму ранку, нібыта і ў купальскі ранак пераліваецца рознымі колерамі, і, нават, "гуляе і скача".

З Купаллем звязвалася і ўяўленне аб чарговай часовай мяжы. Са з'явай павелічэння ночы чалавек звязваў адраджэнне да жыцця злых Духаў цемры і холаду. У выніку з купальскай ноччу звязаны самыя неверагодныя ўяўленні аб актывізацыі дзеянняў рознай нечысці – чарцей, Бабы Ягі, д'яблаў, ваўкалакаў і, што найбольш характэрна для беларускай міфалогіі, ведзьмаў.

У самых захапляючых купальскіх сюжэтах расказваецца аб пераўтварэнні ў гэтую ноч ведзьмы ў жабу, мыш, яшчарыцу, якая ў такім выглядзе пранікае ў хлеў, каб адабраць у каровы малако, зрабіць заломы ў жыце.

Шумам і песнямі, якія спявалі дзяўчаты каля вогнішча, каля жыта, на полі, палохалі ведзьму і праганялі яе з поля. З гэтай мэтай кідалі ў жыта галавешкі ад купальскага вогнішча, абтыркваалі поле асінавымі галінкамі, апрысківаалі святой вадой. Лічылася, што Прарок Ілья таксама дапамагае людзям у барацьбе з ведзьмамі і засцерагае ад іх злых чараў сялянскія палі. Акрамя таго, амаль паўсюдна на вогнішчы "спальвалі ведзьму".

**Продкі лічылі, што агонь ачышчае душу чалавека ад грахоў, здымае злыя чары і хваробы, дапамагае ў здзяйсненні задуманага. На падставе апошняга, закаханыя, баючыся, каб іх не разлучылі, пераскоквалі праз агонь удвух, узяўшыся за рукі.**



Фота IREX/ProMedia.

**Нават у часы хрысціянства беларусы не адмовіліся ад паганскіх звычаяў. Рамантыка купальскага свята не страцілася і сёння. Пры добрым надвор'і ад праведзенай у сяброўскай кампаніі ночы ля вогнішча цяжка не атрымаць асалоду. Аднак не лішнім будзе напомніць, што свята гэта – свята яднання з прыродай, таму вельмі важна пакінуць месца свайго адпачынку ў такім жа прыязным стане, як і да вашага візіту. І вельмі асцярожна абыходзіцца з агнём, каб купальскае вогнішча не ператварылася ў вогненны смерч.**

## Купальскай ночы чакалі з нецярпеннем дзяўчаты, хлопцы і ... шукальнікі скарбаў

**З нецярпеннем чакалі купальскай ночы і шукальнікі скарбаў. Яны верылі, што над кожным з іх апоўначы гарыць чароўны агеньчык.**

Шматлікія паданні беларускай зямлі звязаны таксама з кветкай папараці, якая нібыта зацвітае на Купалле апоўначы. Той, хто зможа яе адшукаць і сарваць, станавіўся багатым чалавекам і набываў незвычайныя здольнасці разумець мову дрэў, жывёл і птушак. Вельмі любяць шукаць яе закаханыя – разам шансаў больш, ды і ў выпадку няўдачы не так крыўдна.

Прыкметы і варажба ў купальскую ноч і напярэдадні яе мелі аграрна- і любоўна-магічны накірунак. Так, вечарам і ноччу збіралі лекавыя травы, што называлі "святаянскімі зёлкамі", якія выкарыстоўвалі пры лячэнні розных хвароб і правядзенні ачышчальных рытуалаў, закідвалі на стрэхі хат, дзе жыла дашлюбная моладзь, вянкі з купальскіх кветак, каб хлопец або дзяўчына на працягу года "былі ў пары". Дзяўчаты кідалі купальскія вянкі ў вогнішча, чый хутчэй згарыць, тая дзяўчына раней за іншых пойдзе замуж, а калі хлопец здолее выхапіць чый вянок з полымя, то тую дзяўчыну лічылі яго суджанай. Часта звівалі касу з жытніх каласоў, што раслі на полі. Чыя каса хутчэй разаўецца, тая дзяўчына хутчэй выйдзе замуж. З дапамогай сарванага ўначы трыпутніку варажылі ў сне і на суджанага.

А вось адметнасцю купальскіх песень было тое, што сярод абрадавых песень сустракаюцца і жартоўныя, а т[...] сама баладныя і велічальныя, якім адпавядае своеасаблівая "купальская" вобразнасць, мелодыка і паэтыка.

**Вадзім ЗУБРЫЦКІ,**
**выпускнік геафака БДУ.**

■ СУЧАСНАСЦЬ

# Тут вучаць дзяцей мастацтву, бачыць свет і захапляцца ім

**МАЛАДЗЕЧНА. Не адзін адрас змяніла дзіцячая мастацкая школа з пачатку свайго заснавання ў 1978 годзе.**

Займалі два невялікія памяшканні жылога дома па вуліцы Будаўнікоў. Каля дзесяці гадоў размяшчаліся ў інтэрнаце фабрыкі "Камсамолка" на вуліцы Касманаўтаў. У новы будынак па вуліцы Язэпа Драздовіча з прыстасаванымі для работы майстэрнямі жывапісу, малюнка і лепкі перабраліся ў 1985 годзе. Яшчэ праз некалькі гадоў заснавалі аддзяленне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з яго традыцыйнымі відамі: лён, саломка і пляцінка.

Кожную вясну юных мастакоў можна ўбачыць у маляўнічых кутках – у цэнтральным парку і скверах, на плошчах і вуліцах за мальбертамі. Хлопчыкі і дзяўчынкі пад кіраўніцтвам прафесійных мастакоў вучацца назіраць за прыродай, заўважаць прыгажосць, самастойна ствараць кампазіцыі і працаваць з фарбамі. Крыху натхнення – і самыя звычайныя гарадскія сюжэты ператвараюцца на лістах ватману ў арыгінальныя творы жывапісу. Школа выхоўвае адораных дзяцей па свабодных праграмах. У яе метадыках адсутнічае кансерватызм, дзякуючы чаму ў дзяцей выхоўваецца шырыня мастацкіх густаў і разняволенасць творчага мыслення.

Нельга ўявіць Маладзечанскую мастацкую школу без яе арганізатара і заснавальніка Васіля Таркана – яе пачынальніка і дырэктара. Ён закончыў аддзяленне жывапісу Мінскага мастацкага вучылішча. Прыехаў у Маладзечна і пачаў працаваць выкладчыкам малявання ў СШ №6. У 1978 годзе ён узначаліў дзіцячую мастацкую школу.

– Я заўсёды лічу філасофію навукай усіх навук, – гаворыць Васіль Аляксеевіч, – таму і працягваў адукацыю на філасофскім факультэце БДУ. З захапленнем працаваў над сваёй дыпломнай работай "Навуковае пазнанне Геракліта".

Мастацтва і філасофія захапілі В.А.Таркана на ўсё жыццё і дапамаглі знайсці свае шляхі творчай рэалізацыі і асэнсавання рэчаіснасці. Складаныя кампазіцыі мастака ў стылі мадэрн, такія, як "Вока зямлі", "Нараджэнне новага веку", схіляюць да роздуму і абагульненняў. У іх адчуваецца абстрактны погляд на з'явы жыцця, шырыня мыслення і кругагляду, уласцівыя чалавеку філасофскага складу розуму. Работы Таркана не раз дэманстраваліся на выстаўках у Маладзечне і за межамі горада. Кожны раз яны прыцягвалі ўвагу і выклікалі цікавасць непаўторным аўтарскім светаўспрыманнем.

У педагагічным калектыве мастацкай школы працуе шмат яскравых асоб творчага складу. Выкладчыкі А.М.-Пашкевіч, В.М.Лазоўскі з'яўляюцца членамі Саюза мастакоў. Л.М.Валковіч-Борыс, А.А.Ралавец і Р.Ш.Панфілава носяць званне народных майстроў Беларусі. Пяць выкладчыкаў маюць вышэйшую адукацыю. Вельмі цікавы чалавек – выкладчыца гісторыі мастацтва В.С.Дворак, пад кіраўніцтвам якой для навучэнцаў арганізуюцца пазнавальныя экскурсіі і падарожжы.

У 2000 і 2001 гадах навучэнцы ДМШ удзельнічалі ў міжнародных конкурсах, фестывалях дзіцячай творчасці "Залаты пеўнік", "Мінулае, цяперашняе і будучае ў творчасці дзяцей", "Нашчадкі Перамогі", "Тайвань". Шмат гадоў школа супрацоўнічае з краязнаўчым музеем, музычылішчам імя К.Агінскага, сярэднімі школамі горада, цэнтральнай гарадской бібліятэкай і культурна-інфармацыйным цэнтрам горада Віцебска "Скарбы свету".

Кожную вясну напрыканцы навучальнага года ў мастацкай школе пачынаюцца ўступныя экзамены. За прайшоўшы год плата за навучанне ў першым класе павялічылася ад адной тысячы рублёў да пяці, але жадаючых вучыцца менш не стала. Апошнія гады адміністрацыю стала больш клапаціць своечасовая плата за электраэнергію і камунальныя паслугі ва ўмовах недастатковага фінансавання навучальнай установы. Не хапае грашовых сродкаў на бягучыя рамонты, абнаўленне будынка і яго матэрыяльна-тэхнічнай базы. Усё гэта з'яўляецца адлюстраваннем сучасных эканамічных умоў, але сапраўдная кузня мастацтва з гонарам працягвае трымаць свой узровень у цяжкім эканамічным становішчы. Да знамянальнай даты рыхтуюцца новыя мастацкія выставы, конкурсы плакатаў, твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Непрыкметна прабяжыць час, і мастацкая школа шырока расчыніць дзверы для сустрэчы са сваімі выхаванцамі. За гады існавання школа выпусціла 554 выпускнікі. Некалькі соцень з іх яшчэ вучацца альбо скончылі спецыяльныя і вышэйшыя мастацкія ўстановы. Каля 150 з іх працуюць у родным горадзе, на Беларусі і прымаюць актыўны ўдзел у развіцці і станаўленні выяўленчага мастацтва. Цяпер шэсць былых выпускнікоў працуюць выкладчыкамі ў мастацкай школе. Больш 20 чалавек – у школах горада і раёна.

**Наталля РАБЧАНКА.**

 



# Барацьбы не атрымалася

**МАЛАДЗЕЧНА. На чэмпіянаце краіны па гарадках, які праходзіў з 28 па 30 чэрвеня, чакалася напружаная барацьба.**

Першы дзень спаборніцтваў спраўдзіў гэтыя чаканні, але ўжо на другі дзень, калі спартсменам значна перашкаджалі ўмовы надвор'я, Генадзь Сушко пайшоў у адрыў, і толькі Віктар Данілаў імкнуўся наладзіць яму канкурэнцыю. Але ў апошні дзень Данілаў выступіў няўдала, ледзь захаваўшы другое месца, на якое прэтэндавалі і Аляксандр Філістовіч, і мінчанін Ігар Лімберг.

Пяцёрка лепшых выглядае так:

| Спартсмены | Па днях | Сума |
|---|---|---|
| Сушко | 40 40 42 | 122 |
| Данілаў | 39 43 45 | 127 |
| Філістовіч | 46 40 43 | 129 |
| Лімберг | 41 43 46 | 130 |
| Туравец | 46 43 43 | 132 |

З 32-х удзельнікаў 19 прадстаўлялі Маладзечна (горад і раён), шасцёра – Бярозаўку (у іх атрымалася няўдалае выступленне), пяцёра – Мінск, і двое – Оршу. З Оршы прыехаў пяціразовы чэмпіён краіны **Віктар Жарабцоў**: пачаў спаборніцтвы добра, але не вытрымаў напружання барацьбы. Дарэчы, Сушко дагнаў па тытулах **Аляксандра Кулака**: у абодвух па чатыры чэмпіёнствы. Сярод удзельнікаў сёлетняга першынства перамог больш нікто не мае. Дарэчы, рэкардсменам з'яўляецца не такі ўжо стары пакуль **Аляксандр Шалаеў** (1945 года нараджэння) – 11 разоў.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Маладзечанец Аляксандр Філістовіч стаў бронзавым прызёрам чэмпіянату краіны.**

# Пазмагаўся сярод дарослых

**МЯДЗЕЛ. Мядзяльчанін, студэнт БДЭУ Валянцін Бабровіч удала выступіў на чэмпіянаце Еўропы па армрэслінгу, які праходзіў з 17 па 23 чэрвеня ў чэшскім горадзе Брэцлаў.**

Ён заняў чацвёртае месца ў схватках на левай руцэ ў вагавай катэгорыі да 65 кілаграмаў. Прычым, упершыню на міжнародных спаборніцтвах Валянцін змагаўся сярод дарослых (19-і гадовы юнак дагэтуль меў некалькі медалёў у юніёрах). І на гэтым турніры лепш за яго з беларускай каманды ніхто не выступіў (у актыве нашых — тры чацвёрыя месцы).

**— Самыя яркія ўражанні ад чэмпіянату?**

— Усё было нашмат больш прафесійна, чым сярод юніёраў. Адразу па саперніках бачна, наколькі яны вопытныя, моцныя. Ім у сярэднім па 28–35 год. Даводзілася сур'ёзна перад кожнай схваткай настройвацца. Армрэслінг становіцца больш папулярным, відовішчным. Стаялі два вялікія экраны, на якіх дэталёва кожную схватку паказвалі. З многімі камандамі прыехалі і балельшчыкі.

**— За кошт каго ўдавалася перамагаць?**

— Пэўна, з–за энергіі, што ёсць у маладосці. Ды і вопыт нейкі пасля юніёрскіх спаборніцтваў ёсць. Толькі вось сілачкі не хапіла.

**— Ты не так даўно стаў выступаць сярод дарослых. Якія вынікі дагэтуль былі?**

— Я і вагавую катэгорыю на большую памяняў. Стаў адчуваць сябе больш упэўнена: не трэба хвалявацца, ці набраў лішні вес. А сярод дарослых сёлета быў першым-другім на чэмпіянаце рэспублікі сярод ВНУ, Кубку горада, чэмпіянаце рэспублікі. Тут сапернікі не лічылі, што я магу ў «тройку» трапіць, але я ім даказаў, што магу перамагаць. Зараз ужо не здзіўляюцца.

— І якія планы на будучыню?

— Бліжэйшае спаборніцтва — чэмпіянат свету ў Егіпце. Паеду, калі знойдуцца спонсары. Бо на фінансаванне з боку дзяржавы разлічваць не даводзіцца: армрэслінг — не алімпійскі від спорту (хаця і вядзецца работа, каб ён быў прадстаўлены на Алімпіядзе).

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Двое маладзечанцаў – у чацвёрцы лепшых

**МАЛАДЗЕЧНА. Вясной ў Гродне прайшоў чэмпіянат краіны па мнагаборству. Юрый Байко ў асабістым заліку стаў другім і выканаў нарматыў кандыдата ў майстры спорту. Віталь Паўлоўскі заняў чацвёртае месца.**

– Каб дыстанцыю 3 км прабег хутчэй на 7 секунд ці не заваліў б дзве спробы на стральбішчы, то і я стаў бы кандыдатам у майстры спорту, – растлумачыў Віталь.

Юрый таксама пахваляваўся. Апошнюю дысцыпліну – 3 км – трэба было прабегчы за 10 хвілін і 10 секунд.

Я ніколі так хутка не бегаў. Хваляваўся ўсю ноч перад стартам. Раніцай папрасіў сяброў, каб падганялі. І прабег так, як ніколі ў жыцці не бегаў.

Бег – гэта каронная дысцыпліна Віталя Паўлоўскага. Калі вучыўся ў 5 класе, пачаў займацца лёгкай атлетыкай. Займаўся два гады, але стаў горш вучыцца ў школе, і маці забараніла хадзіць на лёгкую атлетыку. Паступіў у палітэхнікум, і тут прапанавалі займацца лёгкай атлетыкай. Згадзіўся. Сур'ёзна трэніруецца з мінулай восені. І ўжо ёсць вынікі – першае месца ў абласным кросе. У Маскве на міжнародных спаборніцтвах у складзе каманды Мінскай вобласці таксама стаў першым. Цяпер Віталь шкадуе аб тым, што ў дзяцінстве кінуў лёгкую атлетыку. Шмат год згубіў. Паступова Віталь зацікавіўся мнагаборствам. З першага разу стаў чацвёртым у рэспубліцы. Мэта Віталя – стаць майстрам спорту і паступіць у Акадэмію фізвыхавання.

Каронная дысцыпліна ў Юрыя – плаванне. У палітэхнікум паступіў у чымсьці выпадкова. Вучыцца на электрыка. Мнагаборства спачатку было як хобі – пасля трэніровак у басейне хадзіў у цір. Кім быць – яшчэ не вырашыў. Да заканчэння палітэхнікума яшчэ тры гады, таму час яшчэ ёсць.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Навучэнцы палітэхнікума Віталь Паўлоўскі і Юрый Байко.**
**Віталь Паўлоўскі. Нарадзіўся 24 кастрычніка 1982 года ў Смаргоні. Пасля заканчэння 10 класаў СШ №6 паступіў у Маладзечанскі палітэхнікум. Навучэнец 3 курса. Па шматбор'і і легкай атлетцы мае першы дарослы разрад.**
**Юрый Байко. Нарадзіўся 14 ліпеня 1985 года ў Маладзечне. Пасля заканчэння ў 2001 годзе 9 класаў СШ №1 паступіў у Маладзечанскі палітэхнікум. Навучэнец 1 курса. Кандыдат у майстры спорту па мнагаборству.**
**Восенню 2001 года абодва ў складзе каманды палітэхнікума выйгралі абласны крос сярод навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, прычым Віталь Паўлоўскі ў асабістым заліку заняў першае месца.**

■ **КОННЫ СПОРТ**

## Этап Кубка Беларусі

**МАЛАДЗЕЧНА. 28-30 чэрвеня ў Палачанах прайшоў чацвёрты этап Кубка рэспублікі па канкуры.**

З'ехаліся амаль усе мацнейшыя спартсмены краіны, праўда, не здолелі прыняць удзел мясцовыя **Вольга** і **Сяргей Пятровы**.

У першы дзень разыгралі першынство ў "Цяжкім класе А" (вышыня перашкод 120 сантыметраў). Першае месца ў **Віктара Пятрова** на Фройлейн, трэціяе месца ў **Алены Вальчык** на Сіндзі.

У суботу падводзіліся залікі ў чатырох намінацыях. Па суме двух канкураў для 4-гадовых коней і ў дзіцячым першынстве (1987 года нараджэння і малодшыя) нашых земляко́ў сярод прызёраў не аказалася. Па суме ж канкураў для дарослых коней (110 см) Вальчык была першай на Брадвеі, а Пятроў – трэцім на Франтавіку. Нарэшце ў "Цяжкім класе" (125 см) зноў Вальчык стала першай (на Сіндзі), а Пятроў – трэцім (на Фаварыце).

Гран-пры для 4-гадовых коней "Сярэдні клас" (110 см) прынёс Вальчык другое месца на Хайфе. Гран-пры для дарослых коней "Цяжкі клас Б" (120 см) прынёс ёй тое самае другое месца на Брадвеі. У дзіцячым Гран-пры (110 см) **Вольга Макей** на Рытмсе стала другой. Кульмінацыяй спаборніцтваў быў "Цяжкі клас Б" (130 см), дзе Вальчык заняла другое месца на Бабецце.

Камандны залік не падводзіўся. Нараўне з гаспадарамі добра глядзеліся прадстаўнікі эксперыментальнай базы "Ніва" Лідскага раёна, сталічнага клуба "Фаварыт-гранд", коннага цэнтра Ратамкі, калгаса "Зазер'е" Пухавіцкага раёна.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Табло**

**РЭГУЛЯРНЫ ЧЭМПІЯНАТ**

29.06 РВАР (Мінск) – Забудова 0:2 (0:2)

Галы: Відрук (5, 10)

01.07 Маладзечна-2000 (дубль) – Лакаматыў-96 (Віцебск, дубль) 0:2

# Першая перамога з 12 красавіка

**02.02. Маладзечна-2000 - Лакаматыў-96 3:1**

**Суддзя** Андрэй Жукаў (Мінск), 800 гледачоў.

**Галы**: Сарасек (5), Сысой (54), Міхалёў (65); Васільчук (79).

**Папярэджанне**: Макрыцкі (45).

**Склад**: Рубацкі, Бычкоўскі, Муравейнікаў, Сарасек (Тартоўскі,72), Азаронак, Дараховіч, Мігас, Акуліч (Рапецкі, 46), Сысой, Міхалёў (кап.), Макрыцкі (Грыхуцік, 86).

**Лепшыя**: Міхалёў (2 раз у сезоне), Рубацкі (2), Сарасек (4).

**Віталь Міхалёў**, які праводзіў на гарадскім стадыёне ў Маладзечне ў якасці гаспадара апошні матч, выглядаў больш чым упэўнена. На 5-й хвіліне яго ювелірны навес знайшоў галаву **Сарасека**, і Віцебчане паспрабавалі адказаць, але **Рубацкі** выратоўваў. Затым магчымасці павялічыць лік загубілі спачатку **Сысой**, а потым **Мігас**. Нягледзячы на дрэнную рэалізацыю галявых момантаў, заставалася пачуццё, што "Маладзечна-2000" пераможа ў сваім апошнім дамашнім матчы першага круга. Напэўна, у сваім аптымальным складзе і ў апошні раз на чале з **Людасам Румбуцісам**. Большасць футбалістаў "Маладзечна" ў хуткім часе стануць свабоднымі агентамі і частка пойдзе з каманды. Пакідае клуб пасля гульні з "Тарпеда-МАЗ" і галоўны трэнер. Пасля будзе тры тыдні перапынку паміж кругамі.

У другім тайме пасля добрага рэйда **Рапецкага** забіў гол Сысой. Ініцыятыва была на баку гаспадароў. Потым вызначыўся голам Віталь Міхалёў. Маладзечанцы перамагаюць галоўнага канкурэнта за месца ў вышэйшай лізе, але пакуль не становяцца "пераможцамі" чэмпіяната.

**Каментарыі**

Людас Румбуціс, галоўны трэнер ФК "Маладзечна-2000":

- Добрая гульня. У нас і раней у некаторых матчах атрымоўвалася дэманстраваць камбінацыйны футбол, але тады не было выніку. Не ведаю, як "Лакаматыў" гуляў з іншымі камандамі, але сёння на нашым фоне ён выглядаў слабавата.

**Віктар Шуганаў**, галоўны трэнер "Лакаматыва-96":

- Не ўпускалі ініцыятыву, нядрэнна трымалі мяч, але прапусцілі некалькі контратак. Абаронцы дапусцілі памылкі, і мы саступілі.

Віталь Міхалёў, капітан **ФК** "Маладзечна-2000":

- "Лакаматыў" сёння выглядаў не лепшым чынам. У гэтай сустрэчы ўся каманда старалася, выдзяляць некага не хачу, але перамогі мы нарэшце дабіліся.

**- Большасць гульцоў падалі ў кантрольна-дысцыплінарны камітэт Беларускай федэрацыі футбола заявы аб прадстаўленні свабоднага трансферу. Вы пакідаеце клуб?**

- Ёсць варыянты. У Маладзечне хутчэй за ўсё не застануся.

Дынама (Бр) – Тарпеда-МАЗ 0:1, Дынама (Мн) – Нёман 1:1, Шахцёр – Славія 2:2, Тарпеда – Гомель 3:2, Днепр-Трансмаш – Белшына 2:0, Зорка-ВА-БДУ – БАТЭ 1:2.

1. БАТЭ .......... 26
2. Нёман .......... 26
3. Гомель .......... 25
4. Тарпеда-МАЗ .......... 24
5. Днепр-Трансмаш .......... 21
6. Тарпеда .......... 20
7. Дынама (Мн) .......... 19
8. Шахцёр .......... 18
9. Белшына .......... 17
10. Дынама (Бр) .......... 16
11. Зорка-ВА-БДУ .......... 9
**12. Маладзечна-2000 .......... 7**
13. Славія .......... 6
14. Лакаматыў-96 .......... 3

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ **ПЕРШАЯ ЛІГА**

# З пераменным поспехам

**29.06 Днепр-ДЮСШ-1 (Рагачоў) – Смаргонь 0:1.**

**Суддзя** Генадзь Звярок (Мінск), 600 гледачоў.

**Гол**: Кошаль (18).

**Склад**: Шэлест, Іваноў, Чарнуха, Курак, Давідовіч, Максіменка (Селіванаў, 83), Дукса, Стэльмах, Кошаль, Шамшорык, Шпакоўскі (Сілін, 89).

Забілі пасля розыгрышу вуглавога: першы ўдар па варотах мэты не дасягнуў, але на дабіванні спрацаваў **Кошаль**.

Былі яшчэ спрыяльныя моманты ля чужых варот, прыкладам, **Шпакоўскі** двойчы схібіў, не здолеўшы як след прабіць, хаця знаходзіўся ў вельмі выгадных становішчах.

Правёў матч **Чарнуха**, нягледзячы на боль у калені. Магчыма, да канца круга не выйдзе на поле **Шаблінскі**, якому не даюць пакою пахі.

**03.07 Камунальнік (Слонім) – Смаргонь 1:0.**

**Суддзя** Юрый Кунцэвіч (Гродна), 1800 гледачоў.

**Гол**: Горбач (57).

Нафтан – Днепр-ДЮСШ-1 2:1, ЗЛіН – Граніт 4:1, Ведрыч-97 – Ліда 3:1, Хімік – Лакаматыў 0:3, Бяроза – Нёман 1:2, Асіповічы – Дынама-Юні 0:2, Тарпеда-Кадзіна – Дарыда 0:4.

1. Дарыда .......... 38
2. Лакаматыў .......... 30
3. Ведрыч-97 .......... 30
4. Нафтан .......... 29
5. Граніт .......... 26
6. ЗЛіН .......... 25
7. Камунальнік .......... 21
8. Ліда .......... 18
9. Тарпеда-Кадзіна .......... 16
10. Хімік .......... 15
11. Днепр-ДЮСШ-1 .......... 14
**12. Смаргонь .......... 14**
13. Нёман .......... 13
14. Дынама-Юні .......... 13
15. Бяроза .......... 9
16. Асіповічы .......... 6

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**На гэтым тыдні гуляюць**

**07.07 16-00 Смаргонь – Нафтан (Наваполацк)**

**07.06 Вертыкаль (Калінкавічы) – Забудова**

+0=0-2 1-5. Летась 1:3 (Міранові́ч) дома і 0:2 на выездзе

**09.07 Тарпеда-МАЗ (Мінск) – Маладзечна-2000**

+2=10-6 16-18. Летась 0:1 на выездзе і 1:1 (Сідарэнка) дома

**12-13.07. Беразінскае. VII турнір па міні-футболу "Беразінскае-2002".**

Удзельнічаюць 8 каманд: ВРУП "Беразінскае", "Рамас" (Мінск), зборная Беразінскага, "Усяж", Гарадзілаўскай СШ, трубапракатнага завода (Маладзечна), ПТВ-42 (Беразінскае), калгасаў "Кастрычнік-Гарадзілава".

**12.07 – гульні папярэдняга этапа. Пачатак – а 15-й гадзіне. 13.07. – фінальныя гульні. Пачатак – а 10-й гадзіне.**

 

# ВІНШАВАНКІ

**Анатолю Піліпавічу Судніковічу**

Дарагі наш муж, татачка, дзядуля! Віншуем цябе з 60-годдзем!
Желаем счастья в этот день,
Тепла от всех, кто будет рядом,
И солнечных лучей в награду,
И не грусти ты о годах,
В любых годах свой вкус
и сладость,
Лишь были бы с тобой всегда
Семья, друзья, здоровье, радость.
*З любоўю твае родныя.*

**Зоі Гаўрылаўне Раманавай**

З днём нараджэння
Поздравляем, мамочка, тебя мы
С этим радостным и светлым днем
И от всей души тебе желаем,
Чтобы жизнь была
наполнена теплом.
Чтобы ты такой же оставалась
Долгие-предолгие года,
Ладилось все и удавалось.
Каждая мечта твоя сбывалась,
Мамочка, будь счастлива всегда!
*Дзеці і ўнукі.*

Віншуем з днём нараджэння **Кавязу Вольгу**! Будзь заўсёды прыгожай, добрай і шчаслівай. З горам не сустракайся, часцей усміхайся. *Мама, тата, муж і сын Арцём.*

Віншуем **Алу Антонаўну** з 50-годдзем! Жадаем шчасця, радасці, моцнага здароўя і ўсяго самага найлепшага. *Дзеці, унукі.*

Віншуем з днём нараджэння татачку, мужа **Пыцько Аляксандра Гаўрылавіча**! Жадаем поспехаў ва ўсіх справах. *Жонка, сыны Эдзік, Саша, унукі.*

Віншуем з юбілеем **Раісу Вячаславаўну Кахновіч**! Жадаем моцнага здароўя, добрага настрою і сямейнага дабрабыту. *Дзеці.*

Віншуем з днём нараджэння **Жэнечку Рабішку**! Жадаем быць здаровым, паслухмяным і вучыцца на "выдатна". *Бабуля, дзядуля, дзядзька Дзіма.*

Віншуем з днём нараджэння **Жэню Рабішку**! Здароўя яму, удачы, поспехаў у жыцці, усіх зямных даброт. *З любоўю ўсе мы.*

Віншуем з днём нараджэння **Аляксея Пятровіча Раманоўскага**! Жадаем здароўя, бадзёрасці на многія гады. *Сын, нявестка, унучкі.*

# ЗНАЁМСТВЫ

Жанчына 43/170-80 пазнаёміцца з адзінокім мужчынам. Згодная на пераезд. Жыллём забяспечана. Маладзечна-1. МС 00344690.

Спадзяюся на сустрэчу з добрым і прыстойным чалавекам 50-55 гадоў. Пра сябе: 50/170, сціплая, прывабная, спакойная. 231000, Смаргонь, а/с 13.

# Аты-баты йшлі салдаты...

**МАЛАДЗЕЧНА. 28 чэрвеня адбыліся ўрачыстыя правады прызыўнікоў у армію. Больш за трыста хлопцаў сабралася на Старым Месце каля ваенкамата.**

Жанчына сярэдняга ўзросту з трывогай падбегла да ваеннага, які ішоў побач з калонай маладых хлопцаў:

— Гэта нашых хлопчыкаў у армію забіраюць?

— (Ківае галавой). Так. Гэта добра, што людзі хвалююцца.

— (Другая жанчына дадае). Дык тэрмін службы скарацілі?

У суправаджэнні салдат і духавога аркестра прызыўнікі калонай прайшлі праз увесь горад. Усклалі кветкі ля Вечнага агню. Пачулі словы на добрую дарогу ад намесніка старшыні гарвыканкома **Данілеі Жук**:

— Я маці двух сыноў. І ўпэўнена, што кожны мужчына павінен прайсці армію.

Падзяліліся сваімі думкамі наконт армейскай службы намеснік старшыні райвыканкома **Наталля Гайковіч**, адна маці будучага салдата, прызыўнік і дэмбель.

Урачыста ўручылі 300 павестак.

Потым правялі спартыўныя спаборніцтвы паміж салдатамі і навабранцамі. Перамога была за салдатамі.

**Ірына РАБУШКА.**



Фота Ірыны РАБУШКІ.

**Маладзечна, 28 чэрвеня. Прызыўнікі ўскладаюць кветкі ля помніка ў гарадскім парку Перамогі.**

## ■ ІМЯНІНЫ

**5 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Ульяны, Галакціёна.
**Каталіцкія**: Караліны, Філамены, Антона.

**6 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Ефрасінні, Еўдакіі, Соф'і, Хрысціны, Аляксандра, Андрэя, Арцёма, Барыса, Георгія, Германа, Глеба, Данілы, Дзмітрыя, Дзяніса, Івана, Ілы, Кірылы, Канстанціна, Кузьмы, Міхаіла, Мсціслава, Сцяпана, Сяргея, Уладзіміра, Фёдара, Яфіма.
**Каталіцкія**: Дамінікі, Люцыі, Тэрэзы.

**7 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Купалле (нараджэнне Іаана Прадцечы), Антона, Івана, Якава.
**Каталіцкія**: Бенядзікта, Кірылы, Мятодыя.

**8 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Ефрасінні, Давыда, Пятра.
**Каталіцкія**: Альжбеты, Пракопа, Яўгена.

**9 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Давыда, Дзяніса, Івана, Ціхана.
**Каталіцкія**: Веранікі, Зянона.

**10 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Георгія, Івана, Самсона, Серапіёна.
**Каталіцкія**: Амеліі, Антона, Піліпа.

**11 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Германа, Івана, Паўла, Сяргея.
**Каталіцкія**: Вольгі, Пелагеі, Бенядзікта.

# Сапраўдная павага

Мой дзед, Кудасаў Аляксей Сцяпанавіч, адзін час працаваў старшынёй калгаса на Гомельшчыне. Дарэчы, гэта месца ён заняў не зусім звычайна. Прывёз рэкамендаваць людзям іншую кандыдатуру, але тыя выбралі менавіта яго. "Іншая кандыдатура" з гэтай нагоды паехала паклёпнічаць у райком партыі, але там справу замялі.

Аднойчы пастух прыйшоў на кватэру да дзеда, каб вырашыць нейкія свае пытанні. У гэты ж час да ганка падрульвае машына з вялікім абласным чыноўнікам. З машыны выскоквае халуёк гэтага чыноўніка і з лямантам пачынае бегаць па падворку:

— Сцяпанавіч! Сцяпанавіч! Хутчэй кідай усё і бяжы сустракаць госця! Да вас сам таварыш (...) прыехаў!

— Нічога, — адказвае дзед, — прыехаў, пачакае. Ён што, не бачыць, што я размаўляю з чалавекам!?

Вось чаму людзі яго і паважалі. Пасля вайны дзед працаваў дырэктарам школы ў Даўгінаве Вілейскага раёна. А пахаваны ў вёсцы Пагост, што паблізу.

**Алег БЯГАНСКІ.**

# Гульні ў вайну

**МАЛАДЗЕЧНА. 27 чэрвеня паблізу дзіцячага сада №17 "Сонейка" дзеці з суседніх дамоў знайшлі некалькі дзесяткаў баявых патронаў.**

Нагуляўшыся з імі ў двары, дзеці панеслі боепрыпасы дамоў. Усхваляваныя бацькі патэлефанавалі ў міліцыю. Цяпер гэта месца ачэплена прадстаўнікамі праваахоўных органаў. Мяркуецца, што ў зямлі могуць быць іншыя боепрыпасы.

24 чэрвеня ў раёне чыгуначнай станцыі Маладзечна пагранічнікі знайшлі міну, якая пазней ліквідавана сапёрамі з Мінска.

Гэтыя ж сапёры былі і каля дзіцячага сада "Сонейка". Выкапалі там некалькі соцень патронаў.

**Ірына РАБУШКА.**

## Кінатэатр «Радзіма»

**8-14 ліпеня**

**"Мушкецёр"**, ЗША — у 17.00 і 21.00. **"Іншыя"**, ЗША, містычны трылер – у 15.00 і 19.00.
**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ:**
9 ліпеня – **"Выкраданне чэмпіёна"**, ЗША – у 11.00.
10 ліпеня – **"Унутраная сіла"**, ЗША – у 13.00.
11 ліпеня – **"Снежныя сабакі"**, ЗША – у 11.00.
14 ліпеня – **"Нязнайка на Месяцы"**, Расія – у 13.00.

■ КОНКУРСЫ

# Зарабі білеты ў кіно

Прывітанне, шаноўныя!

Усе, хто патэлефанаваў у рэдакцыю, правільна адказалі роўна напалавіну. Калі Карлсана адгадалі ўсе, то з другім героем былі складанасці. Усе назвалі Малыша з гэтага ж твора. Напэўна, аматараў паварушыць мазгамі збіла з правільнага шляху заўвага аб дзіцячым узросце другога героя.

Правільны адказ. Многія здагадаліся, што агульнага ў Брэжнева і Леніна – гэта імя па бацьку. Абодва былі Ільічамі. А цяпер глядзіце. Карлсан – гэта сын Карлы. Хто з'яўляецца "бацькам" Бураціны? Бацька Карла. Другі герой, якога трэба было адгадаць – Бураціна.

Наступнае заданне лягчэйшае. У свой час у Расіі пуд белага мёду каштаваў 5 рублёў, пуд жоўтага – 3 рублі 50 капеек. А пуд ЯГО каштаваў 9 рублёў. Назавіце ЯГО. Падказка: пасля працяглых даследаванняў высветлілася, што ЯГО ў мёдзе амаль няма.

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (апошні тэрмін – 9 ліпеня, 15-00) і прыходзьце па запрашальны білет для дзвюх асоб на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры "Радзіма".

**Юрый КАРПІЦКІ.**



## Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** 27

**да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.**

ТЭКСТ

рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

# ДЗЕ? ДЗЕ? ДЗЕ?

7 ліпеня мінае два гады, як знік наш калега — тэлеаператар

Рэпарцёры — не палітыкі. Журналісты — не суддзі. Але зафіксаваныя рэпарцёрамі факты наўмысна ці неспадзявана выносяць прысуд нават таму, што палітыкі імкнуцца схаваць ад людскіх вачэй. Няма рэпарцёра — няма суда? Дзе Дзмітрый Завадскі? Хто і па якім праве распараджаецца яго лёсам?

Дзмітрый ЗАВАДСКІ ДЗЕ?

Беларуская Асацыяцыя Журналістаў патрабуе праўды!

■ ЮБІЛЕІ

## «Таленавітых многа – мужных мала»

**Да словаў Ніла Гілевіча яшчэ варта было б дадаць, перакананых мала. Але гэта не аб нашым юбіляры Кастусю Харашэвічу, якому 6 ліпеня спаўняецца 75 год.**

Беларускі жывапісец нарадзіўся ў вёсцы Літва паміж Маладзечнам і Валожынам. Сёння яго творы захоўваюцца у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі выяўленчага мастацтва, у зборах у Лондане, Германіі, Польшчы, Расіі.

К. Харашэвіч заўсёды падкрэсліваў, што ён перш за ўсё патрыёт, а потым – мастак. Але трэба дадаць, што гэта мастак з ласкі божай, непаўторны па сваёй манеры выканання, жывапісец–каларыст, творы якога, гэта памяць зямлі, памяць пакаленняў.

Кастусь Іванавіч яшчэ і добры публіцыст. У гэтым мы неаднойчы пераконваліся, чытаючы яго артыкулы ў газетах. А цяпер мы маем магчымасць даведацца аб поўным трагізму, але такім цікавым лёсе гэтага чалавека, калі прачытаем яго ўспаміны ў альманаху "Куфэрак Віленшчыны".

Персанальная выстаўка, вечарына і іншыя ўрачыстасці з нагоды юбілею мастака, які пастаянна жыве ў Маладзечне, адбудуцца ўвосень, калі мастак вернецца са свайго лецішча – прытулку яго думак, а апошнім часам і натхнення.

**Ларыса КАРЧЭЎСКАЯ.**

■ НАШЫ НОРАВЫ

## Пажар

**ВІЛЕЙКА. У аўторак, напярэдадні Дня рэспублікі, жыхары аднаго з дамоў па вуліцы Льва Талстога пачулі едкі пах. З кватэры на першым паверсе цягнуўся дым, а на аконнай раме скакала полымя.**

Аператыўна прыбыўшая пажарная брыгада на чале з **Анатоліем Стрэжам** і **Дзянісам Малеевым** хутка ўзялася за справу.

Выскачыўшы з машыны і на хаду даведаўшыся, што кватэра задымленая, хлопцы хутка ўзламалі дзверы. У памяшканні маглі знаходзіцца людзі, і любое прамаруджванне каштавала б чалавечых жыццяў. Але, на шчасце, жытло пуставала, і яго пустыя сцены і адсутнасць мэблі казалі пра тое, што ў кватэры даўно ніхто не жыве. Хата была поўная дыму, дзверы на балкон расчыненыя насцеж, і скразняк разганяў агонь па кухні. Пажарныя адразу ўнеслі брандспойт, але ваду ўключаць не давялося: каб затушыць вогнішча, хапіла некалькіх вёдзер. Хутка з'явілася міліцыя і пачала апытваць жыхароў. Спрабавалі высветліць, што гэта было: выпадковае ўзгаранне ці наўмыснае падпальванне.

Відавочцы пажару расказалі наступнае. У гэтай кватэры даўно пастаянна ніхто не жыве. Мужык з жонкай разышліся, яна – у бацькоў у вёсцы, а мужчына, калі вяртаецца з месц пазбаўлення волі, наведвае кватэру, а потым зноў вяртаецца ў турму. Калі ён прыходзіць, яго кватэра адразу ператвараецца ў месца збору тых, хто любіць прыкласціся да чаркі. Тады людзі не могуць нармальна спаць, баяцца ўваходзіць у пад'езд, а яшчэ больш баяцца за дзяцей. Сусед зверху аднойчы ўжо выратаваў гэтага "госця ў сваёй хаце". Як і цяпер, убачыў дым з вокнаў, але агню не было, і таму ён вырашыў рызыкнуць. Залез праз акно, зняў чорную каструлю з кухоннай пліты і разбудзіў п'янага гаспадара. Той з цяжкасцю расплюшчыў вочы, доўга не мог уцяміць, што ад яго хочуць, а калі зразумеў, пачаў рагатаць: "Захачу, усіх тут узарву!". Суседка па лесвічнай пляцоўцы "пагарэльца" паведаміла, што некалькі тыдняў таму група падлеткаў спрабавала ўзламаць дзверы, каб пранікнуць у кватэру. Было дзве гадзіны ночы, і адна жанчына пабаялася выходзіць.

Відавочна, што гэтае месца ператвараецца ў прытон. Калі гаспадар прыходзіў на волю, яго сябрукі пілі з ім гарэлку, а ў яго адсутнасць, магчыма, самі залазілі праз балкон у кватэру і займаліся, чым хацелі. Відаць, нехта быў у пакоях і на гэты раз, бо дзверы на балкон расчынены, а само дрэва загарэцца не магло. Што паслужыла прычынай загарання, наўрад ці стане вядома.

Здаецца, у кватэры ёсць гаспадары, але часцей яна пустуе, і любы бомж можа тут пасяліцца. Думаю, па рэгіёне можна знайсці не адну падобную кватэру. Гэта не хата, якая стаіць у вёсцы на водшыбе, і калі за такім закінутым жытлом не будуць сачыць камунальныя службы ці іншыя арганізацыі, яно можа ператварыцца ў месца павышанай рызыкі. Чаму? Звычайна ў панельных дамах і "хрушчоўках" людзі карыстаюцца газавымі плітамі, а газ па трубах, месцамі старых, пераходзіць з жытла ў жытло. Дзе гарантыя, што ў неабжытай кватэры газ не пачне прасочвацца праз шчыліну ў трубе ці труба не будзе наўмысна пашкоджана, ці не лопне пры пажары? Нешта падобнае часта здараецца, і мы так прызвычаіліся да гэтых газавых выбухаў, што перасталі клапаціцца аб асабістай бяспецы. А варта было б!

**Аляксей ЧУБАТ.**

## Гараскоп 8 – 14 ліпеня



**Авен**
(21.03–20.04)

У гэты перыяд зоркі спрыяюць усім вашым задумам, нават самым рызыкоўным. Паспяховымі будуць паездкі, новыя знаёмствы. У цэлым, усё складваецца удала. Актыўнасць вам дапаможа справіцца з усімі праблемамі. Але не забывайцеся пра сваё здароўе.



**Цялец**
(21.04–21.05)

Астролаг раіць брацца за новыя справы і праекты. У сям'і гэты перыяд будзе перыядам самых гарманічных за апошнія месяцы ўзаемаадносінаў, і час, праведзены з сям'ёй, прынясе вам сапраўднае задавальненне. Адпраўляйцеся ў водпуск, падарожжы.



**Блізняты**
(22.05–21.06)

Вы ў гэты перыяд можаце смела пускацца ў самыя рызыкоўныя справы, заводзіць карысныя знаёмствы і планаваць сваю дзейнасць на далёкую перспектыву. Перыяд дае вам магчымасць сумесна з калегамі ўстанавіць якасна новыя партнёрскія адносіны, спрыяльны ён і для вырашэння ўсіх надзённых задач.



**Рак**
(22.06–23.07)

У пачатку гэтага перыяду верагодныя сустрэчы з новымі людзьмі, даўнімі знаёмымі. Магчымы нават канфлікты і непаразуменні. У сярэдзіне перыяду поўнасцю раскрыецца ваш талент арганізатара і схільнасць да халоднага разліку. Пры гэтым памятайце, што дабівацца пастаўленых мэтаў у адзіночку цяжэй, чым сумесна з партнёрамі і калегамі. Паспрабуйце знаходзіць асалоду ад усяго, што будзе адбывацца.



**Леў**
(24.07–23.08)

Не забывайцеся пра здароўе і ў гэты перыяд. Вы будзеце мэтанакіраванымі і актыўнымі, з'явіцца жаданне аказаць пасільную дапамогу навакольным. Ваша актыўнасць дасць магчымасць разабрацца са старымі праблемамі і справамі. Зусім нечакана вас могуць наведаць ідэі па паляпшэнню бізнесу або вытворчасці. Займіцеся сваім домам, сям'ёй, больш удзяляйце ўвагі каханым.



**Дзева**
(24.08–23.09)

Гэты перыяд будзе насычаны рознымі падзеямі. Паступіць выгадная прапанова, якая дапаможа паправіць ваша матэрыяльнае становішча. Паспяховымі будуць усе дзелавыя кантакты, але ўсялякія рашэнні неабходна прымаць самастойна, не трапляючы пад чужы ўплыў. Вы зможаце добра рэалізаваць сябе ў камерцыйнай, прадпрымальніцкай і фінансавай дзейнасці. У выхадныя магчымы уік-энд.



**Шалі**
(24.09–23.10)

У пачатку перыяду вы будзеце падвержаны суму і меланхоліі. Можа, вам давядзецца пакінуць сваю работу, заняцца пошукам новым крыніц даходу і пераглядам вашых фінансавых планаў на будучыню. Але самае лепшае для вас – гэта адправіцца ў адпачынак, заняцца сям'ёй, каханымі, бо ім вельмі патрэбна вашы ўвага і дапамога.



**Скарпіён**
(24.10–22.11)

У гэты перыяд пастарайцеся пазбегнуць сустрэч з начальствам – тут верагодныя сур'ёзныя рознагалоссі. Астролаг рэкамендуе не рабіць неабдуманых дзеянняў – набярыцеся цярпення, сама сітуацыя зменіцца да лепшага. Тым, хто не быў яшчэ ў водпуску, трэба паклапаціцца аб ім.



**Стралец**
(23.11–21.12)

Вас чакае спрыяльны для завяршэння спраў перыяд. Вы атрымаеце задавальненне ад добра зробленай работы, а дабіцца станоўчых вынікаў у ёй дапамогуць парады блізкіх і сям'і. Правядзіце другую палову перыяду дома, у прывычнай для вас абстаноўцы, цалкам прысвяціце сябе каханым.



**Казярог**
(22.12–20.01)

Вам больш за ўсё проціпаказаны фінансавы авантурызм. Грашовыя сродкі, якія ёсць у вашай кішэні, астролаг раіць пакуль не траціць і прытрымаць іх да лепшых часоў. У камерсантаў гэты перыяд спрыяльны для дзелавых паездак і планавання спраў на перспектыву. У сям'і будзе паразуменне і каханне. Не забывайцеся пра сваё здароўе.



**Вадалей**
(21.01–19.02)

У вас паспяхова завершыцца любая пачатая справа. У бізнесе магчымы нечаканы прыбытак, удала пройдуць усе дзелавыя сустрэчы, перагаворы, паездкі. У многіх прадстаўнікоў гэтага знака спрыяльнымі акажуцца кантакты з процілеглым полам. У канцы тыдня астролаг рэкамендуе вам заняцца добраўпарадкаваннем свайго дома, кватэры.



**Рыбы**
(20.02–20.03)

Вам трэба многа і плённа працаваць, пры гэтым трэба ўлічваць, што на службе вельмі высокая верагоднасць канфліктных сітуацый. Калі начальнік раптам вас без бачных прычын пакрыўдзіць, то варта перацярпець і не канфліктаваць, таму што гэта можа дрэнна адбіцца на далейшых адносінах. Больш увагі ўдзяліце свайму здароўю. А на выхадныя астролаг раіць адпачыць, як след...



**Гаспадарчы суд Мінскай вобласці**

**аб'яўляе таргі па продажу аб'ектаў нерухомасці, якія належаць Івянецкаму племптушказаводу**

На таргі выстаўляюцца:

- **будынак хлебнага цэха ў г.п. Івянец**, стартавая цана – 14903000 руб.;
- **будынак піларамы ў г.п. Івянец**, стартавая цана 8720000 руб.;
- **будынак пошты ў г.п. Івянец**, стартавая цана 6420000 руб.;
- **магазін «Івянец» у г.п. Івянец**, стартавая цана 2119000 руб.;
- **магазін «Пеўнік» у г. Валожын**, стартавая цана 7982000 руб.

Таргі адбудуцца 18 ліпеня 2002 года ў 11 гадзін па адрасу:

**г.Мінск, вул. Жылуновіча, 15, каб. 614.**
**Даведкі па тэл. 2455191, 2463633.**

Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)


Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах.
Тыраж **9170 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска).
Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная.
**№27 (376) 5.07.2002**. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 1894. Падпісана ў друк у 13.00 4.07.2002



Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.
E-mail: region_news@irex.minsk.by
http://regionnews.promedia.minsk.by


**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»